*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 219 (341)**

Аўторак, 9 снежня 1997 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля






**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 8.13 | 15.32 |
| Магілёў | 8.05 | 15.38 |
| Гомель | 7.54 | 15.43 |
| Мінск | 8.15 | 15.49 |
| Гродна | 8.29 | 16.05 |
| Брэст | 8.22 | 16.14 |

*Першая квадра 7 снежня.*



**Віншуем!**

## Прысвоены ганаровыя званні

Згодна з указам прэзідэнта, званне "Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь" было прысвоена дырыжору 7-га аркестра Міністэрства абароны Аляксандру ФЁДАРАВУ і салісту Ансамбля песні і танца Узброеных Сіл Леаніду НІКОЛЬСКАМУ, званне "Заслужаны майстар спорту Рэспублікі Беларусь" — спартсмену-інструктару нацыянальнай каманды па сучаснаму пяцібор'ю Жанне ШУБЯНОК, а званне "Заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь" — дырэктару сталічнай політэхнічнай гімназіі Казіміру ФАРЫНО.

**БелТА.**

**Дэмакратыя па-беларуску**

## Вадзіма Лабковіча пазбавілі перадачы

*Больш чым тры месяцы ўтрымліваюцца ў СІЗО Вадзім Лабковіч і Аляксей Шыдлоўскі. І толькі другі раз маці асуджанага шаснаццацігадовага Лабковіча атрымала дазвол на сустрэчу з сынам.*

Перад тым, як пабачыць Вадзіма, Ядвіга Іосіфаўна атрымала вусны інструктаж. Яе папярэдзілі, аб чым дазваляецца, а аб чым нельга размаўляць з сынам. Жанчына здзівілася, што нават немагчыма спытаць у Вадзіма, колькі чалавек знаходзіцца з ім у камеры.

Вадзім паведаміў маці, што яго пазбавілі перадачы ў гэтым месяцы. Аднак прычыну пакарання хлопец называць не стаў. Сказаў толькі, што штосьці адбылося ў СІЗО пасля таго, як ён прачытаў артыкул "Технология сенсации: мальчик хочет в Тамбов, девочка — в Хельсинки. Чего хотят "Известия"?" у "Советской Белоруссии". Між іншым, "Советская Белоруссия" — адзіная газета, якую дазваляюць чытаць падследным.

Перадачу, якая не павінна перавышаць 8 кілаграмаў, перадаваць дазваляецца ўсяго адзін раз у месяц. Цяпер Вадзім Лабковіч атрымае яе толькі напярэдадні Новага года. "Ён упэўнены, што будзе знаходзіцца ў СІЗО і ў гэты час", — сказала Ядвіга Іосіфаўна.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**Дыпламатычны кур'ер**

## МЗС: вакансіі адкрыты, персаналіі пакуль не называюцца

Намеснік кіраўніка знешнепалітычнага ведамства Беларусі Ніна Мазай адмовілася пацвердзіць або абвергнуць сцвярджэнні, якія з'явіліся ў некаторых беларускіх СМІ, што кіраўніцтва МЗС разглядае кандыдатуру былога міністра замежных спраў рэспублікі Пятра Краўчанкі на пасаду Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Японіі.

Як паведаміла журналістам у ходзе брыфінгу ў МЗС 4 снежня Ніна Мазай, часовыя паверанныя, якія прадстаўляюць інтарэсы Беларусі ў Італіі, Японіі і Румыніі, у бліжэйшы час сапраўды будуць заменены на паслоў, што істотна павысіць статус прадстаўніцтваў нашай рэспублікі ў гэтых краінах. Акрамя таго, на працягу наступнага года Беларусь будзе мець пасольствы яшчэ ў трох дзяржавах — Славакіі, Славеніі і Індыі. Што датычыць канкрэтных прозвішчаў новых паслоў, то іх, на думку намесніка кіраўніка беларускага МЗС, абмяркоўваць рана.

**Вадзім МІЛІЦЫН.**

**Непраздный вопрос**

## Какая символика будет использоваться митинговщиками?

**Валерий ЩУКИН**

Несколько дней назад Палата представителей узаконила антимитинговый декрет президента от 5 марта т.г. В соответствии с установленным на Беларуси после прошлогоднего референдума порядком, закон не может противоречить указаниям главы государства и потому в тексте принятого закона с трудом удалось обнаружить отличия от текста декрета N 5.

Тем не менее они есть.

Так, статья 8 предусматривает возможность обжаловать отказ в проведении политической акции в суд, чего не было в президентском декрете. Именно на основании декрета Московский суд г.Минска не стал рассматривать жалобу В.Святской и Ю.Ходыко на Мингорисполком, который отказал им в праве проведения шествия и митинга в годовщину изменения Конституции Республики Беларусь.

Статья 10 декларирует, что собрания, митинги, уличные шествия и пикетирование могут проводиться в любых пригодных для этих целей местах, чего также не было в декрете и что позволяло властям произвольно менять место, избранное организаторами для проведения политической акции.

Внесены изменения и в ограничения на использование плакатов, транспорантов и иной наглядной агитации. Если декретом N 5 запрещалось унижать честь и достоинство должностных лиц и государственных органов, то в принятом законе запрещено унижать честь и достоинство только личности. То есть критиковать правительство, Администрацию президента можно...

Зато в статьях 11 и 12 закона дополнительно к сотрудникам милиции появились некие представители общественности, выполняющие обязанности по охране общественного порядка, чьи распоряжения объявляются обязательными не только для организаторов мероприятия, но и для участников. По всей видимости речь идет о президентском детище — БПСМ.

Одновременно Палата внесла изменение и в статью 167 Кодекса об административных правонарушениях. Гражданам на собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании запрещается пользоваться незарегистрированной символикой. Естественно, что незнание закона от ответственности не освобождает, но только где граждане Республики Беларусь могут узнать, зарегистрирована ли та или иная символика. Может быть, Минюст выпустит специальный атлас?

**Позиция**

## За что будут судить Аллу Грибко?

О голодовке протеста работницы завода "Электроника" Аллы Грибко, проведенной в октябре т.г., "Народная воля" под рубрикой "Позиция" подробно читателей информировала. Напомним, что Алла Петровна прекратила голодовку лишь через 8 дней, после того, как прибывшие на завод 28 октября представители Администрации президента пообещали выполнить все требования голодающей.

Прошло более месяца. Какие изменения произошли на заводе?

Во-первых, назначен новый директор — В.И.Бакуменко. Валерий Иванович проработал на ПО "Интеграл" четверть века, хорошо знает производство и коллектив, а самое главное, относится к людям, с которыми съел пуд соли, совершенно иначе, чем его предшественник В.В.Вербицкий. Во всяком случае, моральное и психологическое давление на работников со стороны администрации пошло на убыль.

Во-вторых, в цехах установлена минимальная, требуемая по технологии температура 19—20 градусов тепла.

В-третьих, начали повышать заработную плату. На отдельных участках подняли до двух миллионов. И хотя даже до минимального прожиточного минимума еще далеко, работники "Электроники" надеются, что график повышения зарплаты, вывешенный администрацией, будет выполняться.

Заработная плата самой "бунтовщицы" составляет 870 тысяч. С 21 ноября т.г. Алла Грибко работает товароведом отдела сбыта, куда ее перевели по состоянию здоровья. Это было одно из первых распоряжений нового директора завода, поскольку профессиональные заболевания, приобретенные за 25 лет на "Электронике", уже не позволяют Алле Петровне трудиться на самом производстве.

Удовлетворение администрацией завода требований голодающей работницы свидетельствует об их правомерности. Тем не менее, как уже сообщала "Народная воля", доблестная белорусская милиция обвинила Аллу Грибко в невыполнении требований президентского декрета N 5 и составила протокол об административном правонарушении, который направила в суд.

Слушание дела назначено на 23 декабря 1997 года в Октябрьском районном суде города Минска. Административный судья Лопух Олег Петрович преподнесет Алле Грибко своего рода рождественский подарок. Трудно предположить, каким он будет, но судя по тому, как "подсудимую" встретили в канцелярии суда, в объективность Фемиды не верится. Гневная канцелярская столоначальница отказала Алле Петровне в возможности квалифицированно ознакомиться с предъявленным обвинением, а заявление судье данная околосудейская дама предложила писать в коридоре на... полу.

**Валерий ЩУКИН.**

## "Хімвалакно" прапануе альтэрнатыву імпарту

Светлагорскае вытворчае аб'яднанне "Хімвалакно" пачало выраб сенавязальнага шпагату палепшанай якасці. Да гэтага часу патрэбнасці сельскай гаспадаркі рэспублікі ў гэтай прадукцыі задавальняліся за кошт імпартных паставак з Расіі, Венгрыі і скандынаўскіх краін.

Мадэрнізацыя лініі па вытворчасці шпагату заняла тры месяцы. Практычныя выпрабаванні, праведзеныя на палях калгаса "Прагрэс" у жніўні гэтага года, пацвердзілі высокую якасць прадукцыі.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БелТА.**

**А што там, на Віцебшчыне**

## Злачынствы, у якіх няма тэрміну даўнасці

Матэрыялы судовага працэсу, які адбыўся роўна 50 гадоў таму ў Віцебску, былі атрыманы з архіваў і надрукаваны ў мясцовых сродках масавай інфармацыі. Загадчыца чытальнай залы Дзяржархіва Віцебскай вобласці Валянціна Шарэнда абнародавала пратаколы і фотадакументы "малога Нюрнберга", які амаль на працягу тыдня праходзіў у будынку Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа.

Сёння ўжо мала хто памятае аб тым працэсе, калі на лаву падсудных селі 10 нацысцкіх злачынцаў. Паўтары гадзіны спатрэбілася абвінаваўцам, каб зачытаць прыгавор. Падсудныя былі прыгавораны да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Фашысты забілі і закатавалі ў Віцебскай вобласці пад час акупацыі 151421 цывільнага жыхара, 92891 ваеннапалоннага, забралі ў нямецкае рабства 68434 чалавекі.

## Праблема суіцыду — на кантролі райвыканкама

Камісію па вывучэнню праблем самазабойстваў стварыў Міёрскі райвыканкам. У яе склад увайшлі прадстаўнікі пракуратуры, аддзелаў унутраных спраў, адукацыі і аховы здароўя. Неспакой мясцовых улад абгрунтаваны. За апошнія тры гады на Міёршчыне добраахвотна пайшлі з жыцця 66 чалавек.

Камісія ўнесла прапановы па арганізацыі псіхалагічнай дапамогі насельніцтву і дапамозе ў вырашэнні сацыяльна-бытавых праблем, па ўпарадкаванню продажу спіртных напіткаў, забараніўшы іх рэалізацыю ў гандлёвых кропках, размешчаных недалёка ад прадпрыемстваў.

## "Безгаспадарныя" трупы

Трупы двух мужчын 50 гадоў на працягу сутак выяўлены на Віцебшчыне. Аднаго знайшлі каля кювета на аўтадарозе Віцебск — Езярышча, другога — у падвале жылога дома ў Полацку. Асобы абодвух пакуль не ўстаноўлены.

Сітуацыя з вышукам прапаўшых і апазнаваннем трупаў людзей, якія памерлі на вуліцах, дарогах, вакзалах, выклікае вялікі неспакой у пракуратуры Віцебскай вобласці. Гэта стала прадметам размовы на нядаўняй калегіі пракуратуры. Лічбы, прыведзеныя на ёй, уражваюць: колькасць неапазнаных трупаў у вобласці дасягнула 55, невядомы лёсы 107 прапаўшых без вестак.

**Вольга СІДАРОВІЧ, БелТА.**

*Несколько дней назад московская газета "Новые Известия", которая в Беларуси пока не распространяется, опубликовала материал Александра Старикевича, посвященный драматическим событиям вокруг Договора о Союзе Беларуси и России. Специально для читателей "Народной воли" автор подготовил расширенный вариант этой статьи, который мы сегодня предлагаем вашему вниманию.*

*Александр СТАРИКЕВИЧ*

# Петля Рюрикова

Летом 1996 года российские реваншисты всех мастей, несмотря на создание единого блока во главе с лидером коммунистов Геннадием Зюгановым, потерпели поражение на президентских выборах. Но они не оставили планов вернуться в Кремль хотя бы с черного хода.

Именно этой цели должен был послужить Союз Беларуси и России.



### Капкан

В конце февраля 1997 года в Минск прилетел помощник президента России по международным делам Дмитрий Рюриков. Его миссия состояла в том, чтобы запустить очередной виток спирали интеграции двух стран, а именно: подготовить преобразование российско-белорусского сообщества в союз. Во многом именно благодаря участию президентского помощника стала возможной многоходовая комбинация, в результате которой Борис Ельцин едва не лишился власти на ровном месте. Поэтому, признавая заслуги одного из основных исполнителей этого плана, условно назовем ее "петлей Рюрикова".

Задачу Рюрикова сильно облегчало то обстоятельство, что первоначально никто не придал особого значения готовящемуся мероприятию. Кремлевские политики были прекрасно осведомлены о формальном характере договора о российско-белорусском сообществе, заключенного в апреле 1996 года. Средства массовой информации также отнеслись к предстоящему событию без большого интереса. Его обсуждение фактически сводилось к одному вопросу: согласится Беларусь войти в состав России на правах шести областей или нет?

Гром грянул через месяц. В течение марта союзное лобби с соблюдением всех правил конспирации готовило новый российско-белорусский договор. Вице-премьер Валерий Серов заручился одобрением проекта со стороны практически всех заинтересованных ведомств. И сделал это таким образом, что на документе стояли визы заместителей, заместителей заместителей и так далее, но те, кто представлял потенциальную угрозу для т а к о г о договора, до самого последнего момента его так и не увидели. Впоследствии средства массовой информации писали, что такой секретности при подготовке межгосударственных соглашений история российской дипломатии не знала со времен пакта Молотова — Риббентропа.

Презентация Борису Ельцину разработок, авторство которых чаще всего приписывается Сергею Шахраю, состоялась сразу после саммита в Хельсинках. Там, как известно, принималось вполне предсказуемое решение о принятии новых членов в НАТО, вызвавшее гнев российских властей. В этой обстановке идея ответить на расширение Северо-Атлантического блока заключением российско-белорусского союза попала в благодатную почву, успешно подготовленную министром иностранных дел Евгением Примаковым, который лично визировал проект и, соответственно, был в курсе всех его особенностей.

В этот момент всплыла и анонимная "сопроводиловка" к договору, адресованная Ельцину. Писал ее, скорее всего, Рюриков, но даже если это и не так, то через руки президентского помощника она в любом случае проходила. Этот документ с нехитрым названием "Об интеграции России и Беларуси" содержит концентрированное выражение аргументов в пользу нового Союза и достоин самого пристального внимания.

Начинается он с ответа на вопрос: а на кой черт вообще в данный конкретный момент Кремлю заключать еще один масштабный договор с Минском, если он не предусматривает государственного объединения? Почти все аспекты взаимоотношений России и Беларуси как независимых государств отрегулированы уже имеющимися соглашениями. Их ничем существенным не дополнило образование сообщества в 1996 году, но тогда это было хотя бы полезным шагом в рамках предвыборной кампании Ельцина. В этой связи документ гласит: "Социально-экономические реформы в России находятся сегодня в той критической стадии, когда их успех в решающей степени зависит от настроения людей. Рост патриотизма и доверия к президенту России вследствие объединения России и Беларуси может дать реформам необходимую энергию общественной поддержки..." Надуманность и неубедительность этой мотивации очевидна для всех, кто имеет мало-мальское представление об основах кремлевской политики.

Еще две цитаты. "Перехват оружия оппозиции совсем не означает, что российско-белорусская интеграция ведет к возрождению тоталитарного СССР, а представленный на ваше рассмотрение проект договора о союзе Беларуси и России является детищем коммуно-патриотов..." "Договор о союзе Беларуси и России был рожден не в недрах оппозиционного парламента, а был подготовлен рабочей группой, созданной по вашему поручению..." С удивительным упорством автор записки пытается отмести любые подозрения о причастности оппозиции к идее подписания союзного договора. Но именно эта настойчивость и порождает серьезные сомнения. Тем паче если учесть некоторые особенности человеческой психологии: тот, кто оправдывается до предъявления обвинения, как правило, на самом деле является виновным.

И уж совсем неожиданно звучит почти исторический вывод: "Отказ от его (союзного договора. — **А.С.**) подписания означает не просто конфликт с парламентом и оппозицией, но и конфликт с правительством, конфликт с общественными ожиданиями, с российским и белорусским народами". Если под общественными ожиданиями имелись в виду чаяния тех, кто готовил Ельцину капкан в виде союзного договора, то этот тезис, безусловно, соответствовал действительности. В подтверждение его оппозиционеры в Госдуме и за ее пределами неожиданно лояльно отнеслись к итогам Хельсинкского саммита, но взамен активно потребовали от властей пойти навстречу единственному союзнику России на международной арене.

Что касается ответа на вопрос, кому же на самом деле нужен т а к о й договор, то он был прекрасно замаскирован среди пафосных утверждений о славянском братстве и историческом единстве народов. Статья 18 данного проекта договора определяла порядок формирования высшего Совета Союза, места в котором резервировались для глав государств, премьер-министров и руководителей палат парламентов государств-участников, а также для председателя исполкома Союза. Совершенно очевидно, что при таком раскладе Ельцин теряет контроль над высшим Советом. Четыре белорусских голоса плюс голос председателя Госдумы Геннадия Селезнева обеспечивают перевес силам, которые при всем желании трудно назвать лояльными к нынешнему российскому руководству.

Между тем статья 17 предполагала возвести решения органов Союза в ранг обязательных для непосредственного исполнения "государственными органами, юридическими и физическими лицами в государствах-участниках". Так формировалась необходимая юридическая база для отстранения от власти Бориса Ельцина.

Прекрасно подготовленная ловушка уже практически захлопнулась. 29 марта Дмитрий Рюриков направляет данный проект Геннадию Селезневу для того, чтобы депутаты могли изучить документ. Но ряд осведомленных источников утверждает, что к этому моменту под этим договором уже стоял автограф Ельцина. "Союзное" лобби убедило его в необходимости досрочного неофициального подписания документа, мотивируя это тем, что по первоначальному сценарию 2 апреля планировалась еще и немедленная ратификация договора парламентами России и Беларуси — дело доселе невиданное в мировой практике. Чтобы грандиозное шоу прошло без сучка без задоринки, Ельцина уговорили дать депутатам пару дней для ознакомления с "судьбоносным" соглашением.

Эта версия объясняет и стремительный вояж 1 апреля в Минск секретаря Совета безопасности России Ивана Рыбкина. Ему было поручено изъять имевшийся на руках у Александра Лукашенко экземпляр договора, подписанный российским президентом. В противном случае посылка Рыбкина в столицу Беларуси большого смысла не имела: если бы речь шла о внесении правок в текст соглашения (официально заявленная цель визита), целесообразнее было бы решить этот вопрос в телефонной беседе между двумя президентами.

Так или иначе, в последний момент Борис Ельцин разглядел опасность, таящуюся во внешне невинном документе. В результате из договора были устранены положения, представляющие непосредственную угрозу для российского суверенитета.

Далее ожидался серьезный разбор полетов. Журнал "Итоги" писал о предполагавшейся отставке активного участника событий Валерия Серова так: "Это было бы логично со всех точек зрения. Он нарушил процедуру прохождения документов, спровоцировал внутриполитический конфликт, наконец — просто проиграл и должен сдаться на милость победителя. А Чубайс, как известно, пленных не берет..."

Однако президент ограничился тем, что снял с должности Дмитрия Рюрикова. Все остальные, включая Серова, уцелели. Сработал старый аппаратный принцип, и исполнители, действовавшие по указке свыше, были выведены из-под ответственности. Вице-премьер — должность сама по себе не маленькая. Поэтому круг тех, кто мог покрывать Серова, достаточно ограничен.

Судя по спокойной реакции Кремля, "союзную" проблему там посчитали исчерпанной. Но так ли это на самом деле?


**(Окончание на 2-й стр.)**


**Коллективное мнение**

## В Беларуси грубо нарушаются права человека, набирает силу процесс разрушения демократии и законности

### Обращение участников научно-практической конференции "Формирование демократического правового государства в Республике Беларусь: проблемы и перспективы" к юристам, всем гражданам Республики Беларусь

Мы, участники научно-практической конференции "Формирование демократического правового государства в Республике Беларусь: проблемы и перспективы", состоявшейся 29 ноября 1997 года в городе Минске, организованной Белорусским фондом правового сотрудничества, обсудив основные направления развития государственности в Беларуси, отмечаем, что в современных условиях в республике идет процесс разрушения демократии и законности, грубо нарушаются права человека.

Политические партии и другие общественные объединения лишены возможности пользоваться государственными средствами массовой информации, независимые газеты находятся под жестким контролем официальных властей. Практически в республике запрещено свободное выражение взглядов, подавляется инакомыслие. По надуманным обвинениям 74 дня содержался под стражей известный журналист Павел Шеремет, уголовное дело в отношении которого до сих пор не прекращено. Основополагающие принципы формирования правового государства (принцип разделения властей, принцип верховенства закона, принцип защиты прав личности и др.) сегодня в Республике Беларусь не действуют.

После "победы" президентской Конституции на ноябрьском (1996 г.) референдуме в Беларуси, по существу, ликвидирован институт парламентаризма. Верховный Совет 13-го созыва как законодательный орган государственной власти заменен "карманным" парламентом в лице Национального собрания. Нет в Беларуси и независимой сильной судебной власти. Исполнительная власть фактически монополизировала в своих руках всю государственную власть. Наблюдается процесс реанимации старой (командно-административной) системы управления.

Сегодня основным регулятором общественных отношений в Беларуси, к сожалению, являются не законы, а декреты и указы президента республики.

Низка правовая культура. Правосознание многих высших должностных лиц государства формируется не на основе уважения Закона, а на основе политической конъюнктуры.

Участники конференции призывают сотрудников правоохранительных органов, судей всех судов Республики Беларусь в своей деятельности строго руководствоваться Конституцией и действующим законодательством Республики Беларусь. От вас во многом зависит обеспечение защиты прав и свобод человека, ускорение процесса формирования правового государства в Беларуси.

По мнению участников научно-практической конференции, разумной альтернативы демократическому правовому государству в Республике Беларусь нет.

Мы призываем всех граждан вместе бороться за свои конституционные права и свободы, делать все для того, чтобы в нашей родной Беларуси в недалеком будущем демократическое правовое государство стало реальностью.

Обращение принято единогласно.

*9 снежня 1891 года нарадзіўся Максім Багдановіч*

## "Беларусь, твой народ дачакаецца залацістага, яснага дня..."

*У гэты дзень у 1891 годзе нарадзіўся выдатны беларускі паэт, празаік і літаратуразнаўца Максім Багдановіч. У гэтым годзе — 7 чэрвеня — мінулі 80-ыя ўгодкі з дня яго смерці.*

*Ты не згаснеш, ясная заранычка,*
*Ты яшчэ асвеціш родны край.*
*Беларусь мая! Краіна-браначка!*
*Устань, свабодны шлях сабе шукай.*
**Максім БАГДАНОВІЧ.**

Лёс наканаваў яму быць мінчуком-мінчанінам. Тут, у цяперашняй беларускай сталіцы, Максім Багдановіч і з'явіўся на свет. Але Фартуна была бязлітаснай да будачага таленту, гонару нацыі.

У пяцігадовым узросце Максім, які год пражыў у Мінску і чатыры ў Гародні, страціў маці, Марыю Апанасаўну, якая памерла ад туберкулёзу. Аднак з малаком маці ён паспеў усмактаць пявучае і сакавітае роднае слова, адчуць глыбіню беларускай душы. Марыя Апанасаўна бавілася апавяданнямі, многія з якіх друкаваліся ў часопісах і газетах. Бацька, Адам Ягоравіч, слыў прафесійным даследчыкам па этнаграфіі і фальклору. Адсюль, мабыць, і захапленне сына літаратурай і лінгвістыкай. Хаця Максім атрымаў дыплом юрыста — у 1916 годзе скончыў юрыдычны ліцэй — ён авалодаў шмат якімі замежнымі мовамі: лацінскай, грэчаскай, нямецкай, французскай, італьянскай... Пісаў жа, дай Бог кожнаму, па-беларуску. Вобразна, крылата, яскрава...

Ён вымушаны быў жыць па-за межамі Беларусі, атрымоўваць адукацыю ў Яраслаўлі, адмовіцца ад запрашэння Янкі Купалы і Б.Эпімаха-Шапілы вучыцца ў Пецярбургу ва універсітэце... І ўсё з-за стану здароўя.

Усяго няпоўных дзесяць год творчасці, пачынаючы з 1907 года, калі ў "Нашай ніве" было надрукавана першае апавяданне Максіма Багдановіча "Музыка", а які плённы вынік, якія празаічныя і паэтычныя здабыткі! З першага надрукаванага твора жыццёвым крэда паэта становіцца: жыць для народа і граць так, каб будзіць яго самасвядомасць.

Ён, Максім Багдановіч, быў сапраўдным беларусам, з развітым нацыянальным пачуццём і заўсёды адчуваў сябе прывязаным да сваёй Радзімы. Чым больш піша ён пра Беларусь, тым больш вабяць яго родныя мясціны. Улетку 1911 года ён наведаў Вільню, з месяц пражыў на Маладзечаншчыне ў фальварку Ракаўшчына. Цыклы вершаў "Старая Беларусь" і "Места" — гэта менавіта яго ўражанні ад вандровак па роднай зямлі.

Гістарычнае мінулае Беларусі не меней хвалюе паэта, чым сучаснасць. І ён стварае незабыўных "Слуцкіх ткачых", "Летапісца", "Перапісчыка" і іншыя вершы.

Ужо дыпламаваным юрыстам ён, здзяйсняючы сваю даўнюю мару, вяртаецца ў Мінск. Гэта было ў 1916 годзе. Наладжвае літаратурныя вечары ў "Беларускай хатцы", чытае вершы, лекцыі па гісторыі літаратуры і мастацтва.


**(Заканчэнне на 2-ой стар.)**


**Ну и ну!**

## Кто в Могилеве крепче спит?

Казалось бы, в Могилеве после убийства главного местного контролера Е.Миколуцкого будет гореть земля под ногами всякого рода криминальных элементов. Но... Несколько дней назад за одну ночь возле центральной гостиницы бандюги "разбомбили" аж четыре автомобиля. Пострадала даже машина иностранной фирмы, которая занимается продажей лекарств. Очистили легковушки основательно, а главное — под носом у стражей порядка.

Возникает вопрос: кто в Могилеве крепче спит — владельцы шикарнейших автомобилей или охранники правопорядка?

**Антон КУЖЕЛЬНЫЙ.**

## "Віленскія мроі" Юльяны Вітан-Дубейкаўскай з роду Мэнке

Спектакль з такой назвай прадставіць 10 снежня сваім гледачам беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра "Зніч".

"Віленскія мроі" — гэта гісторыя кахання, непадуладнага смерці. Лірычны герой монаспектакля — чалавек, які зрабіў неацэнны ўклад у станаўленне беларускай дзяржаўнасці, дзеяч беларускага Адраджэння пачатку стагоддзя, палітык, асветнік, археолаг, стваральнік газеты "Наша ніва" Іван Луцкевіч.

І светлым, і трагічным было гэтае каханне. Яно перапляталася з гістарычнымі падзеямі пачатку стагоддзя, лёсам нашай Бацькаўшчыны. Але невылечная хвароба Івана не дала здзейсніцца марам закаханых пра асабістае шчасце...

Спектакль створаны паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай з роду Мэнке. Гэтая віленская немка прысвяціла сваё жыццё беларускаму Адраджэнню. Кветка Вітан (так падпісвала яна свае мастацкія творы на беларускай мове) падзяліла "найвышэйшыя духоўныя ідэалы" з каханым чалавекам — Іванам Луцкевічам.

Нягледзячы на тое, што "Мае ўспаміны" Дубейкаўскай былі напісаныя ў Нюрнбергу ў 1953 годзе, яны і сёння здзіўляюць жывасцю пачуцця, якое захавала аўтарка праз сорак гадоў пасля смерці каханага, пасля поўнага выпрабаванняў жыцця ў адзіноце.

Шлях мемуараў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай да беларускага чытача быў доўгі — імя Івана Луцкевіча на Беларусі той пары лічылі за лепшае не згадваць. Таму твор спачатку трапіў у Лондан, потым — у Амерыку, а напрыканцы 80-ых гадоў — у Вільню. Пляменнік Івана Луцкевіча Лявон Луцкевіч перадаў машынапіс мастацкаму кіраўніку тэатра "Зніч" актрысе Галіне Дзягілевай, якая, дарэчы, з'яўляецца выканаўцай маналогаў у спектаклі. Так "Мае ўспаміны" сталіся асновай спектакля, у які ўвайшлі таксама вершы беларускай паэткі з Бельска Надзеі Артымовіч.

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

